■ ОБ ЭТОМ СЛЕДУЕТ ЗНАТЬ

Понятно, что такое положение не может не волновать. Минская городская общественная ассоциация «Население за безопасность» видит в данном случае свою задачу в пропаганде технических средств защиты, распространении положительного опыта профилактической работы и т.д. Поэтому мы обращаем внимание минчан на необходимость соблюдать правила предосторожности, повнимательнее относиться к окружающим. Если этот совет вы учтете, многие из преступлений будут предотвращены.

А примеров беспечного поведения граждан, к сожалению, предостаточно.

Ранней весной этого года две симпатичные девушки пришли в общественный пункт охраны порядка микрорайона «Центр» Ленинского района. Со слезами на глазах сообщили о своей беде: молодой мужчина на перекрестке улиц Маркса и Энгельса, приблизившись неожиданно сзади, сорвал с них норковые шапки и скрылся в уже наступившей темноте. Но оказалось, что его же они видели в тот вечер на Привокзальной площади. Стало быть, «охотник» шел за своими жертвами до того, как совершил грабеж. Пострадавшие — сестры Зубович, прибыв в Минск и направившись к цирку, проявили беспечность. Они не воспользовались и телефоном-автоматом, а пока уточняли адрес ОПОП и добрались туда, прошло немало времени.

Принятые меры розыска не увенчались успехом.

В августе 1993 года жительница Минска Р.А.Фролович при посещении вещевого рынка на стадионе «Динамо» имела при себе сумку, в которой находилось 150 тыс. руб. Там же были ее документы. В базарной сутолоке она не заметила, как сумочку отрезали, оставив одни ремешки. Ее запоздалое заявление в ОПОП о случившемся не помогло делу: вор пока не найден.

Летом 1993 года участились случаи угона автомототранспорта с территории, прилегающей к стадиону «Динамо». Злоумышленники во всех случаях использовали халатность владельцев транспорта, которые на длительное время оставляли свои автомашины, мотоциклы без средств защиты и присмотра, а сами в это время беззаботно ходили по рынку. Последовавшие меры по розыску до сих пор результатов не дали.

Так что, как говорят в народе, на Бога надейся, но и сам не плошай, а если оплошал, то не опаздывай с заявлением в милицию.

Подобные примеры, к сожалению, не заканчиваются приведенными. Все они заставляют периодически напоминать нашим людям об элементарных мерах предосторожности в целях личной безопасности и сохранения своих ценностей.

Итак, *первое*, на что обращаем ваше внимание. Оказавшись в сомнительной обстановке, *психологически будьте готовыми к опасности*. Разумеется, человек не может быть в постоянном напряжении, ему нужен отдых и хочется временами расслабиться. Но для этого лучше выделить специальное время и найти гарантированную обстановку. А вот пребывание на улице в незнакомых и плохо освещенных местах подсказывает: будьте бдительны, не отдавайтесь целиком своим переживаниям, мыслям. Здесь требуется внимание к тому, что происходит вокруг, это помогает своевременно сориентироваться при возникновении критической ситуации. А женщину заставит подумать, прежде чем войти в лифт с незнакомым человеком. Жильца — остановит от поспешного открывания двери своей квартиры без выяснения, кто стоит за дверью. Особо на это необходимо обращать внимание детей.

В числе рекомендаций по мерам предосторожности назовем в первую очередь следующие:

*— когда есть возможность выбора, лучше избегать маршрутов по неосвещенным улицам, хотя они могут оказаться самыми короткими;*

*— с наступлением темноты, когда предстоит переход по неосвещенным местам, дорогие украшения лучше оставить дома;*

*— иногда можно заметить, что за вами в течение сравнительно продолжительного времени идет человек, и у вас возникло беспокойство. В таком случае можно проверить свои опасения, изменив направление движения, и направиться в ближайшее место, где есть люди;*

*— если это сделать не удалось, а незнакомец преследует именно вас, нужно запомнить его приметы, завязать с ним разговор. Таким образом вы лишаете его внезапности и скрытности, чем обычно пользуется преступник;*

*— женщины во время пеших прогулок обычно имеют при себе сумочку для денег и документов. Желательно держать ее в руках, прижимая к телу;*

*— ключи от квартиры целесообразно хранить в кармане отдельно от других ценностей, так же как и личные документы;*

*— при поездке в автобусе, троллейбусе для большей безопасности следует садиться по возможности ближе к водителю;*

*— в поезде нежелательно оставаться в пустом вагоне;*

*— без особой нужды лучше не задерживаться на безлюдных автобусных остановках;*

*— при использовании такси необходимо подъезжать непосредственно к подъезду, а водителя просить задержаться до вашего входа в квартиру;*

*— когда обстановка требует, не забудьте предупредить детей о возможной опасности;*

*— при возвращении домой в позднее время неплохо иметь при себе звуковой сигнал (скажем, свисток);*

*— избегайте садиться в машину с незнакомыми людьми и соглашаться на их предложение подвезти вас.*

**Кстати, из бесед с минчанами известно: на крик из подъезда дома жильцы не всегда открывают двери своих квартир. Боятся преступников, да и не желают участвовать в последующем разбирательстве. Зная об этом, может быть, следует кричать не о помощи, о а пожаре? На такой крик жильцы скорее откроют свои квартиры, чем помогут жертве.**

**(Продолжение советов Николая Галашева — в следующем номере).**

**Николай ГАЛАШЕВ,**
**член правления ассоциации «Население за безопасность».**

# СОВЕТЫ НА КАЖДЫЙ ДЕНЬ

**Только за первое полугодие т.г. в республике совершено более 49 тысяч преступлений. Это на 2,7 тысячи больше, чем в прошлом. Особенно обострилась ситуация в Гродненской, Могилевской и Минской областях. Можно сказать, что преступные контингенты перешли здесь в наступление, также как квартирные воры в Минске. Резко возросло число преступлений, совершенных в пьяном виде, в отношении личности и с особой жестокостью.**

■ ГАРАДСКІЯ КЛОПАТЫ

# КАШЫ НЕ ЗВАРЫШ, КАЛІ ПЛІТА НЕ ГРЭЕ

**Міхаіл ВАЛЬКОЎСКІ, «ДВ».**

У глыбокай старажытнасці агонь, ачаг быў у цэнтры ўвагі ўсяго паселішча. Цяпер вогнішча і печ замяніла нам электрычная або газавая пліта. Але ўвагі да сябе яна патрабуе таксама. Бо калі псуецца тэлевізар — гэта проста непрыемнасць, а калі выходзіць са строю пліта — амаль трагедыя. Пра добры стан электрапліт у нашых кватэрах заўсёды клапоціцца арэнднае прадпрыемства «Мінскліфт-3». Дырэктар яго **Г.І.СЫРЦОЎ** кажа, што назва не зусім адпавядае профілю дзейнасці: ні абслугоўваннем, ні рамонтам, ні мантажом ліфтаў яны не займаюцца — хапае іншых відаў дзейнасці. Назва проста напамінае пра падзел вялікага прадпрыемства «Мінскліфт», якое займалася адразу ўсім камунальным электраабсталяваннем.

Толькі трэцюю частку (у грашовым выражэнні) выконваемых аб'ёмаў работ складае непасрэдна абслугоўванне электрапліт. Астатняе — рамонт іншай тэхнікі і абсталявання для жыллёва-камунальнай гаспадаркі.

У складзе арэнднага прадпрыемства «Мінскліфт-3» для гэтага створана пяць прарабскіх участкаў, кожны з якіх мае сваю зону адказнасці. Прадпрыемства клапоціцца аб электраплітах, усталяваных у кватэрах мінчан, якія жывуць у сямі раёнах горада. І толькі два раёны — Савецкі і Першамайскі — абслугоўваюць дзве канкуруючыя арганізацыі. На кожную электрычную пліту (а іх у мінскіх кватэрах каля 100 тысяч) маецца графік планава-папераджальнага рамонту. Ёсць ён і на 40 тысяч пліт у ведамасных кватэрах і больш чым у ста інтэрнатах. Праўда, у некаторых інтэрнатах рамантуюць пліты кааператывы. Згодна з графікам двойчы ў год электраманцёры прыходзяць у кватэру і выконваюць пэўныя работы, абавязковыя для тэхнічнага абслугоўвання. Звычайна сорак дэталей пліты ламаюцца з большай ці меншай верагоднасцю. Калі нейкая сапсавалася, яе заменяць тут жа ці на наступны дзень.

Здараецца, пліты псуюцца ў самы непадыходзячы момант, напрыклад, калі вы рыхтуецеся прымаць гасцей. У гэтым выпадку тэлефануйце дыспетчару, ён прыме заяўку і ў дамоўлены час да вас прыйдзе майстар. Для зручнасці кліентаў брыгады працуюць як у першай, так і ў другой палове дня. Штодзень бывае да сарака выклікаў на кожным участку (за якім замацавана ад 12 да 18 тысяч пліт). Часцей за ўсё выходзяць са строю канфоркі. Іх у пліце тры тыпаразмеры. Найчасцей перагараюць, трэскаюцца, дэфармуюцца сярэднія, дыяметрам 180 міліметраў. Калі ўзніклі чуткі, што за рамонт пліт прыйдзецца плаціць, кватэранаймальнікі дружна кінуліся рамантаваць і замяняць усе дэталі пліт, якія выклікалі ў іх хоць нейкае сумненне. Але пакуль што парадак разлікаў застаўся ранейшым. Канфорка ж падаражэла з шасці рублёў да амаль чатырох тысяч. І гэта яшчэ не канчатковае павышэнне.

Штогод колькасць мінскіх электрапліт павялічвалася за кошт новага будаўніцтва на 8-10 тысяч. Сёлета — усяго на 2,5-4 тысячы, і гэту колькасць складаюць у асноўным пліты «Мечта» Златавустаўскага завода трох розных мадыфікацый. Раней у кватэрах мінчан устанаўліваліся чатырохканфорачныя пліты «Электро 1001» (ці 1002) Нававяцкага завода, трохканфорачныя «Лысьва» Лысьвінскага і «Томь» Кемераўскага заводаў. У адрозненне ад «Мечты» яны маюць уніфікаваныя дэталі, і праблем з іх рамонтам куды менш. Як і з плітамі імпартнай вытворчасці. Але запчастак для «Мечты» практычна няма, для астатніх — вельмі і вельмі мала. Дэфіцыт іх стаў хранічным, бо заводы-вытворцы не пастаўляюць у Беларусь запчасткі (нягледзячы нават на магчымасць аплаты расійскімі рублямі). Толькі Нававяцкі завод, з якім заключаны дагавор на гарантыйнае абслугоўванне яго пліт у Мінску, пастаўляе канфоркі, але фонды на бягучы год ужо вычарпаны.

Вельмі выручае завод «Палессеэлектрамаш» у Лунінцы, дзе асвоілі вытворчасць малых і сярэдніх канфорак. Толькі дзякуючы яму ды старым запасам, якія прадбачліва створаны на прадпрыемстве, магчыма сёння рамантаваць электрапліты.

Крыху лягчэй з пераключальнікамі, якія не толькі можна дзе-нідзе набыць, але і адрамантаваць, і аднавіць непасрэдна на прадпрыемстве.

Увогуле, большасць гаспадынь беражэ свой электрычны ачаг. Але вось у інтэрнатах (на жаль) да пліт адносяцца часам па-варварску. Так што работы спецыялістам «Мінскліфт-3» хапае.

Акрамя рамонту пліт, прадпрыемства займаецца хімічнай прамыўкай цеплаэнергетычнага абсталявання — бойлераў, ад тэхнічнага стану якіх залежыць наяўнасць цяпла і гарачай вады ў кватэрах. Справы тут зусім не бліскучыя. Няма паставак інгібіраванай салянай кіслаты, бо яе не прадае хімічны завод у Валгаградзе. З-за адсутнасці гаручага немагчыма выканаць заяўкі на прамыўку бойлераў на шэрагу прадпрыемстваў Мінска і вобласці.

«Мінскліфт-3», нягледзячы на праблемы, якіх не пазбегнуць у наш час, спрабуе гарантаваць і, як правіла, гарантуе надзейнасць тых хатніх ачагоў, якія залежаць ад электрычнасці (астатняе — справа гаспадынь). Што ж, мінчане прызвычаіліся да сучаснага камфорту, хоць не заўсёды ўсведамляюць, што за ім стаіць.

■ РЭСПУБЛІКА ■

## ШТО СКАЖУЦЬ НЕМЦЫ?

**Як стала вядома карэспандэнту БелаПАН з кампетэнтных крыніц, у берлінскае таварыства «Тройхандаштальт» на экспертызу перададзены праект Дзяржаўнай праграмы прыватызацыі Рэспублікі Беларусь. Афіцыйнае заключэнне па праекту, як чакаецца, Дзяржэканомплан Беларусі атрымае ў пачатку верасня.**

**Алесь ЛІПАЙ, БелаПАН.**

## УСЕ ЧАТЫРЫ КОЛЫ...

Аддзел прамысловасці, энергетыкі, транспарту і сувязі Магілёўскага аблвыканкама звярнуўся з лістом да кіраўнікоў прадпрыемстваў вобласці з просьбай дапамагчы выкупіць у Гомельскага маторарамонтнага завода партыю аўтобусных рухавікоў коштам чатыры з паловай мільёны кожны. Як стала вядома карэспандэнту БелаПАН, з-за адсутнасці рухавікоў цяпер «на прыколе» 61 «Ікарус», а грошай у бюджэце няма. Застаецца надзея на дапамогу гэтых прамысловых прадпрыемстваў.

Каб не застацца наогул «без колаў», першы аўтапарк Магілёва заключыў пагадненне з першым аўтапаркам Масквы аб продажы 30 аўтобусаў «Ікарус», былых ва эксплуатацыі, але менш «зношаных», чым нашы, магілёўскія. Трэба ж на чым-небудзь ездзіць!..

**Святлана СТАХОЎСКАЯ, БелаПАН.**

## НА МЯЖЫ «ГАЗАВАГА» БУНТУ

**знаходзіліся некалькі дзён жыхары Магілёва.**

**А пачалося ўсё з аб'яў, якія былі расклеены на пад'ездах многіх дамоў. У іх паведамлялася аб тым, што падача прыроднага газу ў кватэры будзе спынена. Няцяжка ўявіць сабе стан жыхароў ад такога паведамлення.**

**Аднак аказалася, што ў райвыканкаме, не разабраўшыся, далі каманду домакіраўніцтвам расклеіць вышэйназваныя аб'явы. На самай справе размова ішла пра магчымае адключэнне газу прадпрыемствам-даўжнікам. А «старанныя» чыноўнікі, «не паглядзеўшы ў святцы, бухнулі ў званы».**

**Барыс МІХЕЕЎ.**

## ПАЛІВА НЯМА. АЎТОБУСЫ СТАЯЦЬ

У мінулую нядзелю ў Полацку з-за адсутнасці паліва быў паралізаваны рух грамадскага транспарту. Усяго па дзесяці маршрутах курсіравалі прыгарадныя аўтобусы, практычна спыніўся рух у горадзе. У панядзелак становішча больш-менш нармалізавалася. Перавозка пасажыраў ажыццяўляецца па скарочанаму раскладу — толькі ў часы «пік».

**Аляксандр СУДНІК.**

■ АКТУАЛЬНАЕ ІНТЭРВ'Ю

# ПАВОДКА НА ПАЛЕССІ: ПАДВЯДЗЁМ НЕКАТОРЫЯ ВЫНІКІ

**Канец ліпеня, як вядома, пачаў адлік часу новага выпрабавання для жыхароў Беларускага Палесся: з-за праліўных дажджоў перавысіўся крытычны ўзровень адзнакі вады ў басейнах буйнейшых рэк гэтага рэгіёна. Толькі ў Гомельскай вобласці — у сямі раёнах. Лічбы ўрону з-за затаплення населеных пунктаў, палёў і лугоў, дарог і ліній электраперадачы велізарныя. І мой субяседнік — намеснік старшыні Гомельскага аблвыканкама, старшыня пастаяннай камісіі па надзвычайных сітуацыях Уладзімір Чалко — вядома ж назваў іх: пад вадой аказаліся звыш 155 тысяч гектараў сельгасугоддзяў, 8 ферм, 21 населены пункт. Размыта 135 кіламетраў дарог і 6 дамб. Кошт недабору прадукцыі складае, паводле папярэдніх падлікаў, звыш 50 мільярдаў рублёў... Але цяпер, калі вада амаль паўсюдна пайшла на спад і падлічаны страты, трэба як мага хутчэй дапамагчы людзям. Уладзімір Рыгоравіч гаворыць аб гэтым як аб самым галоўным у парадку дня, бо палешукі спакойныя, як заўсёды, самаадданыя, цягаючы на сабе збожжа па пояс у вадзе — таксама, як заўсёды. Але, перажыўшы Чарнобыль, яны сталі іншымі. І дапамагаючы адзін аднаму чым толькі можна, раўнадушнасці ўлад больш не пацерпяць.**

**«Рахманасць» палешукоў цяпер ужо не з'яўляецца галоўнай рысай іх характару.**

— Самае страшнае ў гэтым стыхійным бедстве — што здарылася яно ў жніўні, у час збору ўраджаю, пагражаючы пакінуць людзей на зіму ні з чым, — гаворыць Уладзімір Чалко. — Трэба кампенсаваць страты агародніны і бульбы на агародах, адрамантаваць дамы, надворныя пабудовы, аднавіць і абнавіць лініі электраперадач, дарогі. Бо пры стане цяперашняй эканомікі і з бульбай у зіму уваходзіць страшна, а ўжо без яе... Як паведамлялася ў сродках масавай інфармацыі, увогуле ў вобласці ўраджай «другога хлеба» багаты, і мы забяспечым ім па памяркоўных цэнах усіх, хто мае ў гэтым патрэбу. Цяжэй з будматэрыяламі, металам, гаручым...

*— Менавіта таму такі доўгі спіс просьбаў кіраўніцтва вашай вобласці, накіраваны ва ўрад рэспублікі. А сярод прапаноў па ліквідацыі стыхіі на першым месцы — меліярацыя. Яна, як вядома, цяпер стала пагалоскай, нехта крычыць, што меліярацыя ўвогуле непатрэбна і што меліяратары загубілі экалогію. А што паказала паводка?*

— Нешта знайшлі, нешта страцілі мы з меліярацыяй. Але паводка стала магчыма толькі таму, што пабудаваныя калісьці больш-менш удалыя меліярацыйныя сістэмы аказаліся занядбанымі: каналы зараслі травой і хмызняком, асабліва ў Жыткавіцкім раёне, так што іх прапускная здольнасць практычна зведзена да нуля. Помпавыя станцыі не працуюць, абсталяванне ўсё паржавела, нават ключы ад засавак згублены. Таму патрэбна тэрмінова знайсці сродкі, каб стварыць надзейную сістэму эксплуатацыі такіх збудаванняў, прывёўшы іх перш за ўсё ў боскі выгляд. На Палессі ж раз у пяць гадоў бывае паводка, няхай і не такая вялікая, як сёлета. Дарэчы, Упраўленне меліярацыі нікуды не знікла, яно па-ранейшаму існуе ў вобласці, вось толькі працаздольнасць і пільнасць калісьці бравыя меліяратары страцілі пасля развалу Саюза. І не без дапамогі крыкуноў, якія гатовы знеслаўляць усё наша мінулае жыццё.

*— Значыць, калі б меліяратары, а з імі яшчэ і сіноптыкі аказаліся больш пільнымі, паводку можна было б прадугледзець?*

— Менавіта аб гэтым гаварылі мы на пасяджэнні аблвыканкама, што адбылося ў Мазыры літаральна ў першыя дні паводкі. Але, на жаль, меліяратарам, як мы з вамі ўжо ведаем, працуецца сумна і вяла. А сіноптыкі даюць, у асноўным, надвор'е на ўчора. І толькі ў апошнія дні, калі ўся сістэма Гідрамета рэспублікі прыйшла ў рух, зводкі гомельскіх сіноптыкаў сталі папераджальнымі. Так, паводку папярэдзіць можна і трэба было, тым больш, што такая, якая адбылася сёлета, бывае раз у сто гадоў. Але халатнасць і абыякавасць людзей, узмоцненая цяперашняй эканамічнай сітуацыяй, дапамаглі паводцы зрабіць сваю чорную справу.

*— А што вобласць гатова зрабіць ужо сёння, каб далей такога не адбывалася, бо так канца не будзе пакутам палешукоў: спачатку Чарнобыль, затым пажары, цяпер — вялікая вада?..*

— Савет Міністраў падтрымаў нашу просьбу — дапамагчы ўмацаваць меліярацыйныя службы, абнавіць аб'екты. Бо для таго, каб была аддача, патрэбны немалыя ўкладанні. А гэта сотні мільёнаў рублёў. Вядома, частку расходаў панясе бюджэт вобласці, але гэта кропля ў моры. Каб поўнасцю кампенсаваць урон з улікам страчанага ўраджаю Гомельскай вобласці, патрэбна 80-90 мільярдаў рублёў. Урад выдзеліў пакуль што 6 мільярдаў, і яны расходуюцца, як я ўжо гаварыў, на дапамогу пацярпеўшым людзям, якія напярэдадні зімы не павінны застацца без прадуктаў і дахаў над галавой. Страты калгасаў і саўгасаў будуць падлічаны і кампенсаваны ў канцы года, калі будзе ясна, што сплыло і згніло...

*— Вялікая вада адыходзіць, і трэба паспець выратаваць тое, што яшчэ можна выратаваць.*

— Так, людзі выйшлі з косамі, цягаюць на сабе з вады збожжа, бульбу, сена. У гаспадарках прынялі рашэнне 50 працэнтаў выратаванага такім чынам ураджаю аддаваць работнікам. Але не думаю, што гэтыя працэнты прымушаюць сялян працаваць без стомы ў нечалавечых умовах і за самую нізкую зарплату. Дзякуй Богу, у вёсках яшчэ не развучыліся працаваць, пакінуўшы палітыку і камерцыю гарадам. Дарэчы, яшчэ адзін урок паводкі: без Саветаў, калгасаў і саўгасаў, кіраўнікі якіх умеюць арганізаваць работу, страты былі б наогул незлічоныя. І вельмі добра, што Саветы на месцах не чакалі, пакуль будзе аб'яўлена надзвычайнае становішча ва ўсёй вобласці, а ўжо ў першыя дні паводкі працавалі суткамі.

*— Гэта значыць, у наяўнасці яшчэ адзін урок: знеслаўляць старое, не стварыўшы новага, працэй простага, але так нядоўга застацца ні з чым! Уладзімір Рыгоравіч, калі мы ўжо загаварылі аб уроках, ці не лічыце Вы, што нават Чарнобыль не навучыў нас адной вельмі важнай рэчы: прыйшла бяда — тэрмінова звані ва ўсе званы, заклікай на дапамогу грамадскасць усяго свету ды і свой новanaроджаны клас камерсантаў?.. Упушчаны час толькі пагаршае становішча.*

— Што датычыць камерсантаў, то да сёлетняй бяды палешукоў яны засталіся абыякавымі. Уся дапамога ідзе толькі па лініі дзяржавы. Але наша суверэнная рэспубліка бедная. Прасіць жа дапамогі мы, сапраўды, не навучыліся. Багатая краіна Амерыка аб тым, што на яе тэрыторыі адбылася паводка, трубіць на ўвесь свет, нашы тэлеэкраны запоўнены жаласлівымі кадрамі наконт гэтага. Аб палескіх жа «плаваючых» вёсках наўрад ці ведаюць нават еўрапейскія суседзі. І тут, на мой погляд, не праявіла кемлівасці наша Міністэрства замежных спраў. А мы ж памятаем, як ажывілася міжнародная дапамога пацярпеўшым у выніку чарнобыльскай аварыі пасля некалькіх выступленняў у міжнародных арганізацыях міністра Краўчанкі.

*— І апошняе пытанне аб прагнозе. Ці не пагражае нам гэтая паводка новай экалагічнай бядой, эпідэміямі?*

— Пад вялікай вадой гніюць травы, і ў раёнах паводкі ўжо стаіць гніласны пах. Змыты мінеральныя ўгнаенні і гной з ферм, ад іх можа захварэць рыба. Ужо ўзнікаюць праблемы з пітной вадой. Але санітарная служба вобласці і эколагі пасля Чарнобыля сталі больш граматнымі, лепш аснашчаны прыборамі кантролю. Трэба толькі пастаянна быць напагатове.

**Гомель–Мінск.**

**Гутарыла Лідзія ПЕРАСЫПКІНА, БЕЛІНФАРМ.**

■ В ОБЪЕКТИВЕ-КИТАЙ

Более пятисот человек в уезде Гаоан (провинция Джиангси) занимаются пчеловодством. В прошлом году производство меда достигло здесь почти 9 млн. тонн.

**Фото СИНЬХУА–БЕЛИНФОРМ.**

## РЭХА ВЫСТАЎКІ ПАТОНЕ Ў ... ФУТРЫ

**Беларускі канцэрн «Беллегпрам» рыхтуе прыемны сюрпрыз для жаночай часткі насельніцтва рэспублікі. Прадпрыемствы канцэрна сумесна з польскімі фірмамі рыхтуюцца да стварэння сумеснага прадпрыемства па пашыву жаночага лёгкага адзення. Акрамя таго, плануецца выпуск і вырабаў з футра.**

**Будучае супрацоўніцтва стала магчымым дзякуючы Нацыянальнай выставе прамысловых тавараў «Беларусь–93», якая прайшла нядаўна ў Варшаве і на якой польскія спецыялісты змаглі азнаёміцца з вырабамі сваіх беларускіх калег.**

**Ірына ЛЕЎШЫНА, БелаПАН.**

■ ЖАТВА-93

## ЕСТЬ МИЛЛИОН

Вопреки трудностям идет уборка урожая в республике. Из намеченных 2 млн. тонн зерна на сегодня на приемные пункты поступило 1 млн. 68 тысяч. Больше всех, почти на 70, 63, 60 процентов, соответственно, выполнили план по продаже хлеба государству хлеборобы Брестской, Могилевской и Гомельской областей. В «хвосте» плетется Витебская — только 42 процента от плана. Но это закономерно — так было всегда из-за более поздних сроков созревания на Витебщине зерновых. Ежедневно на госприемные пункты поступает около 60 тысяч тонн зерна. Из-за отсутствия бензина, как сообщил корреспонденту РИДа начальник управления земледелия Минсельхоза Иван Савеня, — отвозка зерна от комбайнов и доставка на приемные пункты ведется дизельным транспортом. На сегодня уже есть целые области, например, Могилевская, оставшиеся без бензина.

## ЖЕНЬШЕНЬ НА БЕЛАРУСИ

Как стало известно корреспонденту агентства РИД, очень ценное лекарственное растение женьшень выращивается не только в Маньчжурии, но и в совхозе «Минсковощефабрика».

Началось все с 1986 года, когда супруги-агрономы Виолентий, кроме 120 видов выращиваемых лекарственных растений, решили культивировать и «корень жизни» (как иногда называют женьшень). Сначала плантация удивительного корня занимала 1 гектар. Теперь под него отведена площадь в 6 раз большая. Первый урожай в 1990 году составил 0,5 тонны сухих корней, а сегодня планируется заготовить не меньше 2,5 тонны.

— Все это радует и одновременно пугает, — сказала в интервью корреспонденту РИДа Ирина Виолентий. — Наш комитет внешэкономсвязей больше бросает взоры на Корейский полуостров, оттуда собираются импортировать в республику препараты из женьшеня. Но ведь сырье для этих препаратов есть в Беларуси.

Многие представители республиканских властей знают об успехах первых женьшеневодов и восхищаются ими. Но дальше эмоций дело не идет. Может статься, что ценнейшее целебное растение скоро уедет за рубеж. Там женьшень, получается, нужнее.

**Анатолий РОМАНОВИЧ.**

■ ДЫПЛАМАТЫЯ

# «НАС ЦЭНЯЦЬ ЗА СТАБІЛЬНАСЦЬ...»

**Сяргей Мартынаў — адзін з нямногіх кадравых дыпламатаў Беларусі. З першага дня ўстанаўлення дыпламатычных адносін нашай рэспублікі са Злучанымі Штатамі Амерыкі ён узначаліў беларускае прадстаўніцтва ў гэтай краіне, а затым быў назначаны Надзвычайным і Паўнамоцным Паслом Рэспублікі Беларусь у ЗША. У час нядаўняга знаходжання ў Мінску Сяргей Мікалаевіч адказаў на пытанні карэспандэнтаў БЕЛІНФАРМа аб двухбаковых беларуска-амерыканскіх адносінах, якія склаліся на сённяшні дзень.**

— Характар узаемаадносін паміж Беларуссю і Амерыкай я назваў бы дружалюбным і вельмі цёплым. Пацвярджэнне таму — нядаўні візіт Станіслава Шушкевіча і перагаворы на вышэйшым узроўні, якія ацэнены амерыканскім бокам як вельмі прадуктыўныя. Зрэшты, аб гэтым многа пісалася і ў рэспубліканскай прэсе, таму яшчэ раз паўтараць, што ўжо вядома, не хочацца. Аднак варта звярнуць увагу, што Станіслаў Станіслававіч — першы прадстаўнік з краін СНД, якога амерыканскі прэзідэнт асабіста запрасіў у сваю краіну.

*— А чаму, на вашу думку, менавіта Шушкевіч першым сярод лідэраў новых незалежных дзяржаў быў удастоены такога гонару?*

— Гэтаму паслужыў цэлы комплекс прычын. І ў першую чаргу — узважаная і канструктыўная знешняя палітыка Беларусі, асабліва ў пытаннях ядзернай бяспекі. Акт перадачы Шушкевічам Клінтану граматы аб далучэнні Беларусі да Дагавора аб нераспаўсюджанні ядзернай зброі знайшоў вельмі шырокі водгук не толькі ў Амерыцы, але і ва ўсім свеце. Акрамя таго, Беларусь карыстаецца ў амерыканскай адміністрацыі заслужаным аўтарытэтам як дзяржава палітычнай стабільнасці, якая, увогуле, адзіная пазбегнула грамадскіх і іншых катаклізмаў пасля развалу Саюза. Беларусь умее цаніць добрасуседскія адносіны, не прад'яўляе тэрытарыяльных прэтэнзій і гэтак далей. Гэта вельмі важны аспект, які і зрабіў уплыў на добрыя адносіны ЗША, ды і іншых краін, да нашай рэспублікі.

*— А ў чым праяўляюцца гэтыя добрыя адносіны?*

— Калі вы маеце на ўвазе інвестыцыі, то яны таксама дастаткова важкія. Беларусь атрымала ад амерыканцаў больш за 70 мільёнаў долараў на бясплатныя або льготныя пастаўкі збожжа, столькі ж — на ажыццяўленне праграмы раззбраення і канверсіі. За гэты час у ЗША пабывалі шматлікія дэлегацыі нашых прадпрымальнікаў, прадстаўнікоў міністэрстваў, ведамстваў, зацікаўленых у супрацоўніцтве з амерыканцамі. Думаю, што двухбаковыя беларуска-амерыканскія адносіны маюць вельмі добрую перспектыву.

**Аляксандр ЛЮШКЕВІЧ, БЕЛІНФАРМ.**

■ ПАНОРАМА ПРИЛАВКА

# КАЧЕСТВЕННО И НЕДОРОГО

**Марина АЛЕКСАНДРОВА.**

**Наконец-то у минчан появилась возможность, не ломая голову, решить проблему своего семейного гардероба без значительного ущерба для собственного кармана. Появившиеся не так давно магазины по продаже импортных товаров, бывших в употреблении, напоминающие наши комиссионки, позволят многим вздохнуть с облегчением.**

Что же представляют собой эти, пока немногочисленные, магазины под общим названием «Second hand» (дословный перевод — вторая рука)? Я посетила одну из таких торговых точек ПКФ «Делор» на ул.Гикало. При всем при том, что маленькая площадь магазина лишает возможности показать весь товар лицом, покупатели сюда идут и идут. Привлекают их не только низкие цены, но и добротное качество одежды. Кроме того, купленная здесь вещь хороша хотя бы уже потому, что другой такой же вы нигде не встретите. Раз в неделю, в день нового завоза, в магазине особенно много посетителей. Постоянные покупатели — жители из соседних домов — с нетерпением ждут этого дня. Чего тогда только не откопаешь в буквальном смысле этого слова на стеллажах и вешалках! Свитера, пиджаки, пальто, платья, блузки — это далеко не полный ассортимент товаров «Second hand», причем по непривычным для нас ценам: самая дорогая вещь стоит до 1,5-2 тыс. рублей, верхняя одежда — от 2 до 6 тысяч. Неудивительно, что для многих этот магазинчик стал поистине семейным. Отсутствие рекламы компенсируют продавцы, которые сами одеваются преимущественно здесь.

В отличие от этого магазина, где каждая вещь оценена, другой магазин той же фирмы на ул.Малинина, 28 продает одежду на вес. Такая форма торговли очень удобна для районных жителей, которым покупать новую вещь для сельскохозяйственных работ нет необходимости. А многодетным матерям, у которых дети растут, как грибы, так и вовсе невозможно пополнять детский гардероб новой одеждой. Рабочий график составлен так, что один день магазин предлагает товары хорошего качества по одной цене, второй день — товары менее интересные по соответствующей цене и т.д. Одежда, которая не пользуется большим спросом, распродается в определенный день по 100 руб. за кг. Тогда здесь поистине бывает столпотворение.

Однако фирму «Делор», которая открыла эти магазины, не назовешь пока процветающей. Как объяснил мне коммерческий директор М.С.Шкляр, для полноценной торговли нужно не менее 7-10 магазинов, а уж недостатка в покупателях не будет. И я не могла с ним не согласиться, посетив склад, куда приходят оптовые партии одежды «Second hand» из Германии. Даже самых привередливых удовлетворило бы качество вещей, многие из которых почти новые. Что же касается ассортимента, то изобилие такое, что в успехе предприятия сомневаться не приходится.

Магазины работают с января, и уже можно говорить о том, кто является основным их посетителем. Не удивляйтесь, в основном это интеллигенция: инженеры, учителя, врачи. Не мужчины, конечно, — женщины. Ведь именно им приходится заботиться о том, как одеть всю семью. Идут они в магазины не от бедности, а потому что это действительно дешево и строго. По данным западных социологических служб, свыше 70% (!) населения обращаются в подобные магазины. В Европе существует целая сеть специализированных магазинов «Second hand» и фирм, которые собирают и перерабатывают одежду, бывшую в употреблении. Нет ничего зазорного и для нас в том, чтобы купить вещь, которую уже кто-то носил, иначе мы бы не ходили по комиссионкам. Однако предубежденность против одежды с чужого плеча существует даже у тех, кто ее покупает. Работники фирмы «Делор» рассказывали мне о покупателях, которые признались им в том, что никому не говорят, в каком магазине они одеваются. Что ж, такова наша психология: мы хотим казаться богаче, чем есть на самом деле. Однако, я уверена, у магазинов «Second hand» всегда будет покупатель: наши практичные женщины, которые непременно найдут способ отлично выглядеть в любой одежде и обновить семейный гардероб.

